

# Наша слова

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 33 (620) 3 ВЕРАСНЯ 2003 г.

## Беларускі нацыянальны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа пачаў заняткі пад адкрытым небам

1 верасня 2003 года каля тысячы чалавек сабралася пад сценамі будынка Беларускага нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа на вуліцы Кірава ў Менску. Гэта былі навучэнцы ліцэя, іх бацькі, а таксама прадстаўнікі беларускай грамадскасці, палітыкі, пісьменнікі, мастакі, журналісты. Тут у Дзень Ведаў усе і даведаліся, што ўлады ні на якія саступкі так і не пайшлі. Будынак ліцэя быў замкнёны.

Тым не менш чарговы навучальны год у ліцэі пачаўся. Тут жа ўздоўж вуліцы Кірава адбылася ўрачыстая лінейка з нагоды пачатку навучальнага года.

Перад навучэнцамі і ўсімі прысутнымі выступілі выканавец абавязкаў дырэктара ліцэя Уладзімір Колас, прадстаўнікі бацькоўскага камітэта і грамадскасці.

У. Колас у прыватнасці адзначыў: " Я звяртаюся да вас, дарагія ліцэісты. З сённяшняга дня пачынаецца чарговы навучальны год, які з'явіцца для вас вялікім выпрабаваннем. Мы, вашыя выкладчыкі, упэўненыя, што вы пройдзеце праз гэтае выпрабаванне з годнасцю... З сённяшняга дня вы павінны засяродзіцца выключна на вучобе, і няхай прыкладам вам будзе подзвіг выпускнікоў гэтага года..."

Нажаль, газета здаецца ў друк праз дзве гадзіны, таму поўны тэкст выступу У. Коласа мы надрукуем у наступным нумары.

Пакуль ішла лінейка на другі бок вуліцы каля стадыёна "Дынама" былі падвезены класныя дошкі, бацькі збілі лаўкі. Аўдыторыі пад адкрытым небам для першага ўрока былі гатовыя.

Міліцыя нагнала работнікаў ЖКГ касіць траву бензакасілкамі, але травы не аказалася і касцы разышліся. Да яшчэ большага расстройства для ўладаў не пайшоў і чаканы дождж.

Заняткі пачаліся.

*Наш кар.*

*Пастфактум*

## У абарону ліцэя

19.08.2003 г. у Вільні перад Пасольствам Рэспублікі Беларусь быў арганізаваны і праведзены пікет-мітынг. Сюды прыйшлі беларусы-віленчукі па закліку Старшыні ТБК сп. Хведара Нюнікі, каб выказаць свой голас салідарнасці з барацьбой выкладчыку і навучэнцаў за Беларускі нацыянальны ліцэй у Менску.

Было шмат выступоўцаў (Нюнька Х., Гіль Ю., Саўчанка П., Аблажэй А., Вітушка С., Лаўрынавічус Ё. і г. д.), якія выражалі свой гнеўны пратэст супраць закрыцця ліцэя і, наогул, выступалі ў абарону роднай мовы. На вялікі жаль акрамя Паўла Саўчанкі, сюды не прыйшлі іншыя настаўнікі з Беларускай віленскай СШ імя Ф. Скарыны.

Выступовец Ю. Гіль сказаў наступнае: "Я далучаю свой голас у абарону ліцэя не толькі таму, што там вучацца мае пляменнікі (Юля Гіль і Паўлік Котаў) і хочуць працягваць навучанне на роднай мове, але таму, што, наогул, роднай мове ўзнікае пагроза ў сувязі з закрыццём беларускага школьніцтва, бо ў Беларусі толькі 27% вучняў маюць магчымасць вучыцца ў беларускіх школах... Ганьба, беларускім уладам... Патрэбна ўсім падымаць свой голас у абарону ліцэя і роднай мовы"

Была прынята адпаведная рэзалюцыя ў абарону ліцэя і роднай мовы. Спадар Нюнька Хведар гэты ліст-пратэст перадаў у амбасаду РБ у Літве, перад будынкам якога адбыўся мітынг пратэсту.

Навучэнцы і выкладчыкі ліцэя! Змагайцеся за свае права навучыцца на роднай мове. Беларусы Вільні з вамі! Жыве Беларусь!

*Юры Гіль.*

## Мама. Школа. Беларусь.



"Мама. Школа. Беларусь." - гэтыя тры першыя словы прачыталі 1-га верасня вучні падрыхтоўчага класа Бердаўскай сярэдняй школы Лідскага раёна на ўрачыстай лінейцы.

Бердаўская школа цалкам беларускамоўная, колькі гадоў таму займала першае месца на конкурсе на лепшую беларускую вясковую школу, а сёлета па словах дырэктара Анатоля Крупы зрабіла свой зорны выпуск. З 14 выпускнікоў 2003 года 10 чалавек паступіла ў ВНУ, трое ў тэхнікумы, адзін у ПТВ. Бердаўскія выпускнікі паступілі ў Пражскі універсітэт, БДУ, БДЭУ, Нац. тэхнічны універсітэт, Акадэмію МУС, БДПУ, Інстытут кіравання, Гарадзенскі універсітэт, Гарадзенскую духоўную семінарыю. Дарэчы сёлета ўжо трэці выпускнік Бердаўскай школы за апошнія гады паступіў вучыцца на ксендза.

Сёлетнае паступленне бердаўскіх выпускнікоў яшчэ раз пераканаўча пацвердзіла, што беларуская мова аніякай перашкодай для паступлення ў самыя элітныя ВНУ не з'яўляецца, а хутчэй наадварот.

*Яраслаў Грынкевіч.*



**На здымках:** 1. Вучні падрыхтоўчага класа, якіх сёлета толькі дзевяць, слухаюць дырэктара школы Анатоля Крупу.
2. Звініць першы званок.

## Юбілей любімага выкладчыка

Гэтымі днямі споўнілася 50 год з дня нараджэння выкладчыку Менскага дзяржаўнага педагагічнага каледжа № 1, старшыні арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны Фрунзенскага раёна г. Менска і проста цудоўнаму чалавеку Чэчату Алесю Віктаравічу.

Алесь Віктаравіч – асоба, якая аказала вялікі ўплыў на фармаванне думак і поглядаў не аднаго пакалення настаўнікаў. І мы, выпускнікі каледжа, настаўнікі роднай мовы і літаратуры, спяшаемся павіншаваць шаноўнага Алеся Віктаравіча з юбілеем. Жадаем моцнага здароўя яму і яго сям'і, звычайнага чалавечага шчасця і дабрабыту, плёну ў працы на ніве навучання і выхавання новых пакаленняў шчырых беларусаў.

Для чытачоў хочацца паведаміць, што Алесь Віктаравіч – чалавек цікавы, напоўнены жыццёвай энергіяй і аптымізмам, вельмі эрудаваны, вялікі аматар кнігі.

Ён пакінуў у нашых сэрцах самыя запамінальныя моманты ў жыцці каледжа, а гэта – і лекцыі па гісторыі літаратуры, і наведванне цікавых вечарын з удзелам знакамітых людзей Беларусі і яе замежжа, і выданне "Весніка педкаледжа", і навукова – даследчая праца, і шмат іншага.

Выкладчыкі, навучэнцы і выпускнікі каледжа выказваюць шчырую падзяку Алесю Віктаравічу за шчырасць у адносінах да людзей і працы, за нястомнасць у выкананні Святой Справы на ніве ажыццяўлення многіх мар беларусаў.

Няхай Вам, Алесь Віктаравіч, дапамагае Бог! Да віншаванняў хачаш далучыць радкі з верша Вольгі Туравец, навучэнкі 401 групы:

***... Яго лагодны, ясны позірк***
***Спагадай,***
***дабрынёй іскрыцца.***
***Настаўнікам***
***не кожны стане –***
***Ім неабходна нарадзіцца.***

*Андрэй Грыгаровіч па даручэнні выпускнікоў МДПК № 1 2003 года.*



Алесь Чэчат з сябрамі

*Сакратарыят ТБМ далучаецца да віншаванняў спадару Алесь Чэчату і са свайго боку жадае нашаму адданаму сябру здароўя, доўгіх гадоў і плённай працы на ніве Беларушчыны.*

 



№ 33 (620) 3 ВЕРАСНЯ 2003 г. НАША СЛОВА

# Адзіная старажытнарускасць. Ці была яна?

Калісьці Ул. Ленін сказаў, што калі б матэматычныя аксіёмы закраналі класавыя інтарэсы, то іх бы абвяргалі. Сапраўды так. Але гісторыі вядома і іншае: інтарэсы грамадскіх груп, а тым больш цэлых народаў, выклікалі да жыцця міфы, гіпотэзы, якім затым надавалася вартасць аксіёмы. Да цяперашняга часу на правах такой аксіёмы жыве сцвярджэнне аб тым, што у IX-XIII стст. існавала ***адзіная*** (тут і далей падкрэсліванні мае. – І. К.) старажытнаруская, часам яе называюць агульнаўсходнеславянская, народнасць і, адпаведна, мова. Гэтая ідэя зарадзілася тады, калі маскоўскія валадары абвясцілі Маскву трэцім Рымам, а самі прыхватызавалі сабе права быць правіцелямі ўсяго ўсходняга славянства і сталі пакараць Вялікае княства Літоўскае і Украіну. А па меры падпарадкавання захопленым землям давалі, або забіралі, свае найменні (Беларусь, Паўночна-заходні край, Маларосія). Заўважым тут, што Русь пачыналася менавіта з Кіева, а, як бачым, з апошняй назвы – Маларосія – корань Русь знікае. Ён стаў належаць толькі "рускім" ці "вялікарусам", хаця іх дзяржава – Расія.

Гіпотэза аб адзіным старажытнарускім народзе і мове набыла годнасць аксіёмы ў савецкія часы. Яна найлепшым чынам сфармулявана ў кнізе "Руский язык. Энциклопедия" (М., 1979, с. 101-106) і скарочана паўторана ў артыкуле "Руская мова ў энцыклапедыі "Беларуская мова" (Мінск, 1994, с. 459). Згодна з беларускай энцыклапедыяй "Пасля распаду праславянскага этнамоўнага адзінства сфарміраваліся тры блізкародныя групы: усходняя (старажытнаруская народнасць), заходняя (палякі, чэхі, славакі, лужычане, паморскія славяне) і паўднёвая (балгары, славенцы, харваты, македонцы), кожная са сваімі моўнымі асаблівасцямі. Продкам усходнеславянскіх моў з'яўляецца старажытнаруская, або агульнаўсходнеславянская мова (існавала з УІІ па ХІУ ст., на аснове якой у Х ст. узнікла пісьменства (кірылаўскі алфавіт)".

Звяртае на сябе ўвагу, што гэтая "тэорыя" сцвярджае розныя мадэлі паходжання вядомых нам славянскіх моў і народнасцяў. Заходнія і паўднёвыя быццам бы ўтварыліся непасрэдна з праславянскай, не прайшлі праз стадыю агульназаходняй і агульнапаўднёвай, а вось руская, беларуская і ўкраінская прайшлі праз стадыю агульнаўсходнеславянскай адзінасці, прытым існавала яна быццам бы аж да ХІУ ст. Пераконлівых довадаў, зразумела, няма, а прычыны ўзнікнення гэтай асобай мадэлі для ўсходняй групы самі вылазяць на паверхню. Галоўная з іх у тым, што ні адзін з народаў заходняй і паўднёвай групы не захварэў на "старшынства" перад іншымі братамі-сёстрамі па групе і не перавёў гэта ў плоскасць практычнай палітыкі. А ва ўсходняй групе падардынская Масква захацела быць большым носьбітам рускасці, чым пачынальнік Русі- Кіеў.

У сёняшніх нашых умовах не лішне будзе паспрабаваць глянуць на тыя довады, якія паказваюць рэальную карціну ўтварэння вядомых у сучаснасці славянскіх моў і перш за ўсё тых, якія быццам бы ўтварыліся толькі ў ХІУ ст. – беларускай, украінскай і расійскай (рускай). Заўважым тут адносна тэрміна. Польская лінгвістыка трывала захоўвала два тэрміны: jenzyki ruskie – украінская і беларуская мовы і jenzyk rosyjki – расійская мова, гэта тая, якая сёння імянуецца рускай, хаця Ламаносаў напісаў "Российскую грамматику", а не рускую. І тут мне падаюцца вельмі цікавымі назіранні і вывады нашага беларускага лінгвіста Янкі Станкевіча і украінскага даследчыка Рыгора Піўтарака.

Станкевіч выклаў свой пункт гледжання ў артыкуле "Месца беларускага языка сярод іншых славянскіх языкоў і час яго ўзьніку" (Родная мова. Месячнік пасьвячоны пытаньням беларускае (крывіцкае) мовы. № 5-6, Вільня, 1931).

Звяртае на сябе ўвагу тое, што Станкевіч не абмежаваўся парай-другой моўных з'яў, а разглядзеў вялікі набор паказальных, характарыстычных фанетычных, марфалагічных з'яў і акцэнтуацыю (націск), усяго аж 43 з'явы. Ён адзначыў, што з'явы, якія быццам бы павінны паказваць на адрозненні паміж трыма групамі, зусім непаслядоўна размяркоўваюцца паміж усходнімі, заходнімі і паўднёвымі мовамі. Ёсць з'явы, якія характэрны групам, як напрыклад тое ж поўнагалоссе, якое ўласціва кожнай усходнеславянскай мове (бел. ***барана***, рус. і укр. ***борона***). Але большасць з'яў размяркоўваюцца ў пэўным сэнсе перакрыжавана, паміж мовамі розных груп. Так, напрыклад, аканне характэрна беларускай мове, частцы гаворак расійскай мовы і славенскай мове, а ўкраінскай і добрай палавіне расійскай - не характэрна. А той жа постпазіцыйны член. Ён характэрны балгарскай мове ***(вино-то)*** і вядомы расійскім гаворкам ***(чайку та попь-ем)***. А вось прыклад з марфалогіі: нетэматычныя дзеясловы ў 2-й асобе будучага часу ў бел. мове маюць канчатак ***–сі (дасі)***, такі ж канчатак маюць адпаведныя дзеясловы ва ўкр. мове ***(даси)***, балг. ***(даси)***, а ў рас., польск. і лужыцка-сербскай - ***- ш (дашь, dasz, das)***. Калі ж узяць больш моўных з'яў, то стракатасць карціны павялічыцца.

Я. Станкевіч адзначыў, што з разгледжаных ім 43 з'яў толькі плаўнагалоссе ўласціва расійскай, украінскай і беларускай мовам, а іншым – не. А астатнія з'явы размяркоўваюцца наступным чынам. Асаблівасцяў агульных тром усходнеславянскім мовам і адначасова якой-небудзь мове (ці мовам) заходняй ці паўднёвай групы ёсць трыццаць. А вось асаблівасцяў супольных мове беларускай і адначасна якой-небудзь іншай славянскай мове (заходняй ці паўднёвай), а не ўласцівай расійскай мове адзначана аж дваццаць дзевяць. А з гэтага ён робіць выснову, што "менаваныя асаблівасці паўсталі не толькі за супольнага жыцця моваў блр., рас. і укр., але і адначасна моваў баўг., верхня – і дольналужсэрб., пол., сэрб.-харв., славен. і чэс. А гэта было тады, калі была адна суцэльная праславянская мова, а гэтыя мовы былі ейнымі дыялектамі (нарэччамі)". (с.107). Яго канчатковае заключэнне: "Значыцца ня было жаднае "прарускае пары" ані "прарускае суцэльнасьці", але была калісь суцэльная праславянская мова, каторая дыфэрэнуючыся падзялілася на апрычоныя, гістарычна ведамыя мовы славянскія... Дык у першых стагодзьдзях па Хрысту беларуская мова беспасярэдне з праславянскага языка разьвілася ў вапрычоны беларускі (начай званы крывіцкім) язык". Свой вывад ён падмацоўвае выказваннем слыннага чэшскага лінгвіста О. Гуера, што "праславянскія дыялекты былі відавочна раскладзены так, як раскладзеныя ў гістарычную пару языкі, што з іх развіліся" (с. 108)

Неабходна яшчэ сказаць, што Станкевіч адносна стадыі адзінасці мовы заходніх альбо паўднёвых славян адзначыў: "...расейскія філёлёгі часта замоўчвалі групу заходнюю і паўднёвую, затое вельмі падчырквалі групу ўсходнюю, "рускую", нярэдка ўтажсамляючы яе з моваю расейскай (маскоўскай). Ува ўсім гэтым было болей палітыкі, як навукі" (с. 107). Гэта сказана нашым лінгвістам у пачатку 30-х гг. мінулага стагоддзя. Ён праналізаваў толькі адзін, хоць і самы важны, бок праблемы адзінасці старажытнарускага народа – моўны.

Наш жа сучаснік украінскі прафесар, які дасканала ведае ўсе тры ўсходнеславянскія мовы, паглядзеў на праблему ўсебакова, адпаведна той формуле, якой у савецкі час азначалася ***народнасць***, як сярodкавы этап у развіцці народа ад племені да нацыі. Ён выклаў свае назіранні і вывад у кнізе: Григорій Півторак. "Українці: звидки ми і наша мова" (Київ, "Наукова думка", 1993).

Па існаваўшай у савецкай навуцы формуле для народнасці як гістарычнай адзінкі характэрна агульнасць тэрыторыі, мовы, агульнасць эканамічнага і культурнага жыцця. Значыць, калі не выконваецца хоць адна з гэтых умоў, то няма ***адзінай*** народнасці. Гр. Піўтарак дэталёва аналізуе кожную рысу ў дзяржаве Кіўеская Русь, якая ўтварылася на IX ст. на Сярэдняй Надднепраншчыне з племянных княстваў палян, драўлян, дрыгавічоў і чарнігаўскіх сіверан, а ў канцы IX ст. уключыла ў сябе палачан і смаленскіх крывічоў. Пасля захопу Кіева Алегам, а затым пры яго наступніках да Кіеўскай Русі былі далучаны ўсе ўсходнеславянскія і некаторыя неславянскія (мурама, мера, весь, голядзь, торкі, берандзеі) плямёны.

Гэтая дзяржава мела акрэсленую ***тэрыторыю***, але гэта была тэрыторыя дзяржавы, а не адзінага этнасу. Гэта быў кангламерат розных плямён і народаў, славянскіх і неславянскіх (балты, угра-фіны, цюркі). Заселена была яна вельмі нераўнамерна (пушчы, балоты). Звычайна жыхары, напрыклад поўдня дзяржавы, пры тагачасных сродках камунікацыі па сутнасці не мелі зносін з жыхарамі поўначы, не ўсведамлялі еднасці. Толькі высокае дзяржаўнае чынавенства глядзела на дзяржаву, як на адзінае цэлае.

Прытым, мясцовыя правіцелі імкнуліся, як мага менш, залежаць ад цэнтральнай улады, існавала пастаяннае супроцьстаянне Ноўгарада ці Полацка стольнаму Кіеву. У гэтых умовах носьбіт народнай свядомасці – просты люд – не мог лічыць тэрыторыю аграмаднай канфедэрацыі за сваю агульную. Наўгародцы жылі па сваіх спаконвечных традыцыях, а валыняне ці паляне – па сваіх.

Другой і бадай самай галоўнай прыкметай адзінай народнасці павінна была б быць адзіая мова, прытым мова народнаразмоўная, мова пагалоўна непісьменнага сельскага насельніцтва, у першую чаргу, ваколіц Кіева, палян. Але ж, "беручы пад увагу асаблівасці рассялення і наяўнасць шырокіх і непраходных незаселеных прастораў, цяжка дапусціць, што ўсе агульныя ўсходнеславянскія дыялектныя з'явы і працэсы ўзнікалі сінхронна на ўсёй усходнеславянскай моўнай тэрыторыі. З погляду на яе велізарныя памеры гэта практычна было немагчыма, ...побач з агульнымі моўнымі рысамі для ўсіх старажытнарускіх дыялектаў існавала намнога больш разнастайных лакальных адрозненняў". Да таго ж "агульныя рысы якой-небудзь групы пародненых моў не абавязкова павінны быць спадчынаю адной прамовы. Напрыклад, агульнавядома, што сучасныя заходнеславянскія мовы маюць шэраг агульных фанетычных, граматычных і лексічных асаблівасцяў, хоць ніякае заходнеславянскае прамовы ніколі не было. Гэта самае можна сказаць і пра паўднёваславянскія мовы. З другога боку, нямала фанетычных і граматычных рыс аб'ядноўваюць заходнія і ўсходнія славянскія мовы" (с.96). Агульнаю моваю ў Кіеўскай Русі была пісьмова-літаратурная, але яна была наддыялектная, у значнай ступені штучная, з вялікай доляй царкоўнаславянізмаў, нехарактэрных жывым гаворка. Яна выконвала дзяржаўныя функцыі паралельна з царкоўнаславянскай. Прытым, традыцыі пісьма ставілі жорсткі бар'ер пранікненню ў пісьменнасць дыялектных з'яў, з-за чаго мы не маем яснай карціны дыялектнага чляненне ўсходнеславянскіх моў нават у канчатковы перыяд Кіеўскай Русі, не гаворачы пра пачатковы, з якога не зберагліся пісьмовыя крыніцы.

Агульнасць эканамічнага жыцця, як рыса адзінасці народнасці, нават не падлягае аналізу, бо гаспадарчае жыццё, рынак дзяржавы зусім не залежыць ад этнічнага складу. Дзяржава можа быць поліэтнічнай, а жыць адзіным гаспадарчым механізмам.

І нарэшце пра адзінства стараджытнарускае культуры як неад'емную рысу народнасці. У гэтым пытанні ніяк нельга ігнараваць таго факта, што ў Кіеўскай Русі было дзве культуры. Насельніцтва кожнага рэгіёна, уключанага воляй і зброяй больш моцнага феадала ў адзіную дзяржаву і пасля гэтага ўключэння захоўвала векавыя этнічныя племянныя звычаі, абрады сваіх продкаў, свой фальклор, свой побыт, як і мову. Гэтыя адметнасці з далёкіх часоў дажылі аж да нашага часу. Для адзінай народнасці яны ў сваёй аснове павінны былі б быць агульнымі, але гэтага не было. Зразумела, што аб'яднаўчыя намаганні вярхоўнай улады ішлі і па лініі культуры, па лініі стварэння наднацыянальнай, агульнадзяржаўнай культуры. Для гэтага ў канцы Х ст. (988 г.) пачалося хрышчэнне кіяўлян і паступовае штучнае распаўсюджванне хрысціянства балгарска-візантыйскага варыянту на Русі. Але яно было павольным, не хутка дайшло да простага люду, носьбіта нацыянальных традыцый, а значыць не стала фактарам нівеліроўкі гэтых традыцый і фармавання адзінай народнасці, адзінага этнасу ў Кіеўскай Русі. Гэта была культура не столькі Русі, а хутчэй культура Візантыі і паўднёвых славян. Яна стала асновай наднацыянальнай пісьмовай мовы Кіеўскай Русі. Стварэнне агульнадзяржаўнай пісьменнасці і культуры служыла аб'яднаўчым мэтам. Адзінасць Русі прапагандавалася, апявалася, да яе заклікалі ўлады. А просты люд жыў, захоўваючы свае мясцовыя традыцыі.

Гр. Піўтарак прыходзіць да высновы: "Вучэнне пра старажытнарускую народнасць з'явілася, верагодна, у выніку атаясамлівання стараджытнарускае дзяржаўнасці, якая рэалізавалася ў стварэнні Кіеўскай Русі, з адпаведнаю народнасцю, якая нібыта немінуча мела б сфармавацца, хаця на самай справе яна не паспела ці нават і не магла сфармавацца ў тых канкрэтных гістарычных умовах. Сёння ўсё больш з'яўляецца навуковых падстаў разумець старажытнарускае грамадства як аб'яднаную ў адной дзяржаве з адзінаю афіцыйнаю ідэялогіяю і рэлігіяю сукупнасць славянскіх і неславянскідх этнамоўных груп (і бліздкародных, і генетычна чужых), далейшае грамадска-палітычнае і культурнае развіццё якіх спрычынілася да феадальнай раздробленасці, гэта значыць да ўзнікнення самастойных княстваў-дзяржаў, арэалы якіх у асноўным супалі з ранейшым племянным чляненнем усходнеславянскае этнамоўнае тэрыторыі, з'яўленне ж асобных усходнеславянскіх народнасцяў у XII-XIII стст. было абумоўлена не падзелам так званае старажытнарускае народнасці на тры часткі, а кансалідацыяю некалькіх сумежных і блізкародных груп усходнеславянскіх тэрытарыяльна-племянных аб'яднанняў у кампактныя культурна-этнаграфічныя масівы, што ў выніку іх далейшае кансалідацыі паступова перараслі ў украінскую, расійскую (рускую) і беларускую народнасці" (с.98).

Што датычыць назвы, якой іменавалі старажытнарускую дзяржаву (Русь), то яна таксама не з'яўляецца фактам, які б сведчыў аб адзінай народнасці. Ні адно са славянскіх (перш за ўсё наддняпроўскіх) плямён таго часу не іменавала сябе ні росамі, ні русамі. Слова гэта не славянскае. Як мяркуюць гісторыкі, гэтак іменавалі сябе дружыннікі тых нарманаў, якія сталі валадарыць у Кіеве, затым так стала называцца іх дзяржава. Да этнасу гэта не мае дачынення.

Паглыбленае вывучэнне асобных славянскіхд моў і дыялектаў і іх кантактаў усё больш ставяць пад сумненне прыведзеную на пачатку гэтага артыкула з энцыклапедыі "Беларуская мова" "аксіёму" аб адзінай старажытнарускай народнасці і яе мовы. Там жа на С.85 чытаем: "У сучаснай славістыцы ўсё больш пачынае пераважаць думка аб складаным паходжанні ўсіх сучасных славянскіх моў, у тым ліку і беларускай, моўныя продкі якой маглі належаць да розных дыялектных груповак праславянскага перыяду. У сувязі з гэтым падвяргаецца сумненню даволі распаўсюджаны тэзіс аб поўным зыходным дыялектным адзінстве ўсходніх славян і тэорыя т. дв. агульнай калыскі ўсіх усходнідх славянскіх моў, што асабліва добра відаць з прац, прысвечаных вывучэнню стараджытнанаўгародскага дыялекту (Д.Зяленін, Б. Ларын, А.Залізняк і інш.)."

*І. Крамко.*

 

# Дзень беларускай вайсковай славы

Штогод патрыятычная грамадскасць Беларусі адзначае адно з галоўных нацыянальных святаў – Дзень беларускай вайсковай славы. 8 верасня 1514 года ля Оршы 30-тысячнае беларускае войска пад камандаваннем гетмана найвышэйшага Беларуска-Літоўскай дзяржавы князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага разграміла 80-тысячную армію Маскоўскага вялікага княства, якой камандавалі галоўныя маскоўскія ваяводы баярын Іван Андрэевіч Чаляднін і баярын князь Міхаіл Іванавіч Булгакаў-Голіца (продак князёў Галіцыных).

Аршанская бітва 8 верасня 1514 года была адным з эпізодаў у доўгай барацьбе беларусаў з захопніцкімі памкненнямі Маскоўскай дзяржавы, якая ўжо ў канцы XV- пачатку XVI ст. пачала агрэсію з намерам захапіць Беларусь і ўключыць яе ў склад сваёй дзяржавы. У той перыяд пачалася серыя войнаў паміж Маскоўскім вялікім княствам і Беларуска-Літоўскай дзяржавай. Адной з такіх войнаў была вайна 1512-1522 гадоў. Маскоўскі вялікі князь Васіль Іванавіч намагаўся захапіць Беларусь і ўкраінскія землі. У кампаніях 1512 і 1513 г. маскоўскія войскі спрабавалі ўзяць Смаленск, які ўваходзіў у склад Беларуска-Літоўскай дзяржавы. У лютым 1514 г. у Маскве была заключана саюзная дамова паміж вялікім князем Васілём і паслом германскага імператара Максіміліяна (аб частковым падзеле тэрыторыі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага паміж Нямеччынай і Вялікаросіяй. Васіль Іванавіч атрымаў згоду імператара на захоп Беларусі, Кіева і іншых гарадоў Украіны.

Пасля двух няўдалых паходаў на Смаленск у папярэднія гады маскоўская армія з 300 гарматамі ў ліпені 1514 г. аблажыла Смаленск, і пачаўся пастаянны абстрэл і штурмы горада. Праз месяц аблогі князь Міхаіл Глінскі, які падчас папярэдняй вайны, здрадзіў Беларуска-Літоўскай дзяржаве і перайшоў на бок Васіля III, угаварыў абаронцаў Смаленска капітуляваць, абяцаючы ім розныя ільготы, і яны выйшлі да Васіля III "челом ударити". Васіль III абяцаў Міхаілу Глінскаму аддаць Смаленскае княства, калі той дапаможа ўзяць Смаленск, але абяцанння не выканаў. Пасля ўзяцця Смаленска шлях у глыбіню Беларусі быў адкрыты.

Васіль III накіраваў на захад 80-тысячную армію. Гэтай арміяй камандавалі галоўныя ваяводы – баярын Іван Андрэевіч Чаляднін і баярын, князь Міхаіл Іванавіч Булгакаў-Голіца. Фармальна І. Чаляднін лічыўся галоўным, але абодва галоўныя ваяводы былі самастойнымі ў кіраванні сваімі палкамі.

Маскоўскае войска складалася ў асноўным з баяраў, дваран і "дзяцей баярскіх" (катэгорыя феадалаў, блізкія да дваран). Простых воінаў было мала.

Каб папярэдзіць наступ вялікай маскоўскай арміі, Вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі, ён жа кароль польскі, Жыгімонт Казіміравіч накіраваў насустрач маскоўскім баярам 30-тысячнае войска пад камандаваннем гетмана найвышэйшага, князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага - лепшага палкаводца нашай дзяржавы ў той час. Паводле польскіх архіўных дакументаў і звестак расійскага гісторыка М. К. Любаўскага ды польскага гісторыка З. Вайцяхоўскага, у войску К. І. Астрожскага польскай пяхоты і конніцы было не больш за 4 тысячы чалавек, бо значная частка польскіх жаўнераў засталася ў Берасці. Украінскія аддзелы трымалі абарону мяжы на поўдні ад крымскіх татараў, саюзнікаў Васіля III, а жамойцкія - на мяжы з тэўтонскім ордэнам у Прусіі.

Такім чынам, значную большасць войска К. Астрожскага складалі беларускія рыцары (баяры-шляхта). Аддзеламі лёгкай конніцы (з лёгкім узбраеннем) камандаваў дасведчаны палкаводзец Юры Мікалаевіч Радзівіл, які пазней быў гетманам вялікім Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Асобныя аддзелы конніцы ўзначальваў Іван Сямёнавіч Сапега.

Першыя баі паміж беларускімі і перадавымі палкамі маскоўскага войска адбыліся ля ракі Бярэзіны (27 жніўня 1514 г), над ракою Бобр і ля ракі Друць (1 верасня 1514 г), дзе аддзелы Івана Сапегі нанеслі паразу трох маскоўскім палкам. Але вызначальная бітва была наперадзе.

Іван Чаляднін выбраў для вырашальнай бітвы вялікае поле на левым беразе Дняпра, паміж Оршай і Дуброўнай ля ракі Крапіўны. Ён быў упэўнены, што перавага маскоўскіх сіл амаль у тры разы ўжо забяспечыла яму перамогу. Канстанцін Астрожскі таксама вырашыў даць тут бой, нягледзячы на свае параўнальна малыя сілы. Псіхалагічным момантам для беларускага войска была немагчымасць адступлення, бо за невялікім лесам былі ўжо стромкія берагі Дняпра.

7 верасня 1514 года войска гетмана К. Астрожскага наблізілася да Оршы. Канстанцін Астрожскі правёў дэманстрацыйны, але рызыкоўны манеўр. Паказаўшы маскоўскім ваяводам, што ён збіраецца пераправіць усё войска праз Днепр непадаалёк ад Аршанскага замка, галоўнакамандуючы беларускім войскам пераправіў уброд коннікаў. Але маскоўскія ваяводы бяздзейнічалі, чакаючы, пакуль пераправіцца ўсё беларускае войска, каб знішчыць яго адным моцным ударам.

Уначы на 8 верасня Канстанцін Асарожскі задаў пабудаваць цераз Днепр на поўнач ад Оршы два наплыўныя, пантонныя масты са шчыльна заканапачаных і звязаных паміж сабой пустых бочак, плытоў і лодак, з насцілам з плеценага чароту, каб колы гарматаў не грукалі. У байоцістых мясцінах ля ракі былі зроблены гаці з паваленых і звязаных дрэваў. Па наплыўных мастах ноччу патаемна была перапраўлена праз раку ўся пяхота і артылерыя. Абазнаныя людзі заўважылі, што за войскам ляцела шмат крумкачоў і сіпоў, і гэта было расцэнена, што маскоўскае войска будзе разбіта.

Бітва ў полі на беразе Дняпра адбылася за пяць вёрстаў ад Оршы. Маскоўскія палкі стаялі на фронце ў пяць кіламетраў, але само поле бою налічвала ў шырыню тры кіламетры ў першай фазе бітвы і тры з паловаю кіламетры ў другой яе фазе.

У глыбіню поле бою сягала таксама да трох кіламетраў. Частка войскаў уводзілася ў бой паступова. Шэрагі вояроў былі шчыльныя, як таго патрабавала тагачасная вайсковая тактыка.

Раніцай 8 верасня 1514 года, у дзень нараджэння Багародзіцы, абодва войскі стаялі ў баявым парадку. Перад пачаткам бітвы ў беларускім войску малебен за перамогу адслужылі праваслаўныя святары: большасць воінаў і сам К.І. Астрожскі былі праваслаўнымі. Маліліся ксяндзы і каталікі, якіх у яго войску было нямала.

Потым пачаліся "гарцы" – асобныя двубоі паміж вершнікамі з абодвух бакоў, каб заахвоціць астатніх вояроў да бою. Іван Чаляднін выкарыстаў гэты час для больш адпаведнай расстаноўкі сваіх войскаў.





КАНСТАНЦІН АСТРОЖСКІ

Пасля кароткай нарады са сваімі ваяводамі з невялікай прамовай па-беларуску да войска звярнуўся Канстанцін Астрожскі. Ён нагадаў пра слаўныя баявыя традыцыі нашых продкаў, звярнуўся да рыцараў ісці наперад, быць мужнымі. Ён загадаў конным палкам вальна рушыць у бой. Маскоўскія палкі таксама пайшлі ў наступ. Затрубілі трубы, ударылі бубны. Сцягі і прапорцы (сцяжкі) распусцілі да бою. Беларускае войска выступала пад дзяржаўным сцягам з выявай Пагоні, з аднаго боку сцяга, і выявай Багародзіцы з дзіцяткам Ісусам з другога боку. У беларускіх коннікаў у руках былі доўгія дзіды з белым сцяжком, уздоўж якога пасярэдзіне была чырвоная палоска, якая перакрыжоўвалася бліжэй да тронца другой чырвонай палочкай (як крыж). Гэта прадвеснік бел-чырвона-белага беларускага нацыянальнага сцяга.

Атаку на беларускія палкі пачаў полк правай рукі маскоўскага войска на чале з М. Булгакавым-Голіцам. Конніца К. І. Астрожскага контратакавала. Перад гэтым наступам К. Астрожскі зноў звярнуўся да сваіх рыцараў: "Гэй! Вось цяпер наперад, дзеці!" (яму было тады 54 гады). Гетман Астрожскі казаў ім пра ўжо недалёкую перамогу і трыумф, што непрыяцель ужо "млее". Ён прамовіў: "Цяпер будзьце мужамі, няхай кожны адновіць дзельнасць, бо шэрагі непрыяцеля ўжо паблыталіся. На нашым баку стаіць сам Бог і дадае нам з неба абарону! Астрожскі сам кінуўся першым у атаку з шабляй у руцэ. Яго прамова псіхалагічна ўздзейнічала на беларускіх воінаў. Яны рушылі за ім у атаку.

Урэшце конніца М. Булгакава была зламана, разбіта і кінулася наўцёкі. Яе гналі пагоняй беларуская конніца і аддзелы польскай цяжкай кавалерыі.

Аднак Іван Чаляднін са сваімі палкамі не дапамог Булгакаву – Голіцы. Гэта тлумачыцца саперніцтвам паміж маскоўскімі галоўнымі ваяводамі і жаданнем самому выйграць бітву, каб выслужыцца перад вялікім князем. І ўсё роўна у Чаляніна (і без Булгакава) было больш войска, чым у Канстанціна Астрожскага.

Урэшце і Чаляднін павёў свае палкі ў атаку. Завязалася бітва і на правым флангу беларускага войска. У пэўны момант бітвы Івану Чаляднiну здалося, што ён перамагае ў бітве. Ён убачыў, што беларуская конніца і польскія аддзелы спынілі контратакі і па загаду К. Астрожскага пачалі адступаць. Тады, упэўнены у перамозе, І. Чаляднін кінуў у бой усе свае сілы. Маскоўскія вяры пачалі пераследванне. Але ў пэўны момант, непадалёк ад лесу і кустоў у тыле беларускага войска, адступаючы, беларуская конніца падзялілася на дзве часткі; якія хутка скочылі ўбок, направа і налева.

Уся бязладная маса маскоўскіх вершнікаў раптам апынулася перад гарматамі і пяхотай з рушніцамі, што былі ў кустах, на ўскрайне лесу ля Дняпра і ўжо даўно падрыхтаваліся да моцнага залпу. Пярэднія і задняя шэрагі маскоўскай конніцы былі расстраляныя залпам гарматаў і стрэламі з рушніцаў. Маскоўскія аддзелы панеслі вялікія страты ў людзях і конях, і ў шэрагах маскоўскага войска пачалася паніка. Яно кінулася наўцёкі.

Цяпер ужо ўцякалі рэшткі абодвух флангаў маскоўскага войска: адны ў лясы, іншыя ў балоты. А беларускія вершнікі гналі і секлі ўцекачоў. Некаторыя масккоўцы ў роспачы кідаліся ў Днепр і тапіліся ў рацэ. Шмат уцекачоў патанула ў Крапіўне. Аўтар хронікі А. Гваньіні вобразна адзначыў, што рака Крапіўна паміж Оршай і Дуброўнай з-за вялікай колькасці трупаў замарудзіла свой бег.

Бітва доўжылася да заходу сонца. Яна скончылася поўным разгромам маскоўскага войска. Беларускія коннікі працягвалі пераследаванне ажно да васьмі літоўскіх міляў, г. зн. на 60 кіламетраў. Адны з беларускіх коннікаў вярнуліся назад апоўначы, другія нават назаўтра. Яны вялі з сабою вялікую колькасць палонных. Недабіткі ўцяклі ажно ў Смаленск.

Вядомы расійскі гісторык М. М. Карамзін (дарэчы, прыдворны гістарыёграф) у сваёй "Истории государства Российского" адзначыў, што войскі Вялікага княства Літоўскага "ніколі не атрымлівалі такой славутай перамогі над расіянамі: гналі, рэзалі, тапілі іх у Дняпры і Крапіўне; целамі ўсеялі паміж Оршай і Дуброўнай... толькі ноч і лясы выратавалі астатніх". Паводле летапісаў і хронік, у тым ліку аўтараў хронік М. Стрыйкоўскага і М. Бельскага, маскоўскае войска пад час бітвы пад Оршай і пагоні страціла забітымі 40 тысяч чалавек. У палон трапілі галоўныя ваяводы Іван Чаляднін і Міхаіл Булгакаў-Голіца і яшчэ 8 ваяводаў, 37 начальнікаў меншага рангу, 2 тысячы дзяцей баярскіх і больш за 2 тысячы іншых воінаў. 20 тысяч трафейных коняў і палова маскоўскага вайсковага абозу былі параздаваны пераможцам. Сярод вайсковых трафеяў былі ўсе маскоўскія сцягі і агнястрэльная зброя.

Бітву пад Оршай занатавалі ўсе тагачасныя летапісы, у тым ліку маскоўскія і ноўгарадскія, і замежныя хронікі. У Нямеччыне выйшаў адмысловы друкаваны лісток, у якім апісвалася бітва. Каля 1520 г. невядомы мастак намаляваў карціну пра Аршанскую бітву, першую батальную карціну ва Усходняй Еўропе. У Валынскім кароткім летапісе была змешчана "Пахвала князю Астрожскаму".

Бітва пад Оршай мела і міжнародныя наступствы. Вялікі князь Жыгімонт Казіміравіч абвясціў пра перамогу папу рымскага і ўсіх буйных манархаў Еўропы. Імператар Святой Рымскай імперыі Максіміліян I пасля Аршанскай бітвы разарваў саюз з Васілём III як бесперспектыўны. На некаторы час спыніў свае набегі на ўкраінскія землі крымскі хан. Становішча Беларуска-Літоўскай дзяржавы ў геапалітычных дачыненнях на пэўны перыяд палепшылася. Аршанская перамога фактычна замацавала ўсходнюю мяжу Беларусі на стагоддзі. Яна паўплывала і на ход ваенных дзеянняў. Да 1518 года спыніліся напады маскоўскіх войскаў на тэрыторыю Беларусі.

Бітва пад Оршай вывучалася ў вайсковых вучэльнях Расійскай імперыі. Як узор баявога майстэрства беларускіх рыцараў, прыклад вайсковага таленту К. Астрожскага і вельмі ўдала праведзенай аперацыі яна прыведзена ў Расійскай вайсковай энцыклапедыі (1914 г.)

Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 года з'яўляецца славутай старонкай беларускай вайсковай гісторыі. Яна цалкам упісваецца ў агульны шэраг гераічных перамог войскаў Беларуска-Літоўскай дзяржавы на працягу некалькіх стагоддзяў.

*Анатоль Грыцкевіч, доктар гістарычных навук, прафесар, акадэмік Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі.*

## Навіны беларускай фанаграфіі

### І папса патрабуе сур'ёзнага падыходу

**"Грамада" – "Бараболі", Беласток, 2003, "Green Star Music"**

Віцебскі гурт "Грамада" стаў першай легендай беларускай поп-альтэрнатывы ў музыцы.

З гэтым імем звязаны і першыя "Басовішчы" (эмблемай фестывалю ў 1990 годзе акурат і стала з крыламі свіння – гераіня аднай з песень "Грамады" на вершы С.Сокалава-Воюша), і першыя замежныя выданні постперабоўдовачнай эры (альбомы "Грамады" шырока прадаваліся і гучалі па радыё ў Польшчы, а на радзіме пра іх толькі легенды хадзілі), і першыя рызыкі творчай эміграцыі (кіраўнік гурта Яўген Шэмет выехаў у сярэдзіне 90-х у Польшчу ды заснаваў там поп-фолькавы гурт "Яблынька").

Сумненні ў сур'ёзнасці стаўлення да чужога ўзору яўна прыпапсаванага року развеялі яшчэ мае першыя пасздкі па Беласточчыне пачатку 90-х, калі ледзь не з кожнага акна зухаватыя песні "Грамады" разляталіся, як на радзіме які-небудзь Алібасаў або Кіркораў.

І вось на апошнім "Басовішчы" убачыў у крамах новыя перавыданні ў серыі "Volume Hit № 1" старых альбомаў класікі стылю, названага за бугром discopolo. Дык ці гэта не ўзор сур'ёзнай павагі да нашых творчых набыткаў? Тым больш, што "Грамада", не здрадзіўшы роднай мове, дасягнула большых поспехаў, чым нашы батракі расейскага музычнага рынку, ніводзін з якіх так і не трапіў у серыю "Легенды русского рока".

Зрэшты, лепш вернемся да прыемнага. Гурт "Грамада" знайшоў сваё непаўторнае творчае амплуа ў вольнай, можна сказаць нават смелай інтэрпрэтацыі ўзораў позняга поп-фольку з выкарыстаннем арсеналу сусветных стылістычных напрацовак.

Вы ведаеце, напрыклад, знакамітую "Падманула, падвяла"? У гурта "Грамада" яна не выпадкова атрымала назву "Забава", бо гэта зусім іншы твор:

***Ты казала, што уночы***
***Не самкнуцца тваe вочы.***
***Я прыйшоў – цябе няма.***
***Падманула, падвяла.***
***Як забава – дык бавіцца да рання,***
***А як скакаці – дык бавіцца да рання,***
***А як скакаці – дык скакаці цэлу ноч.***
***Ты і гуляла да самага да рання***
***І мінула вось так усенька ноч***

Песня, якая дала назву канкрэтна гэтаму альбому "Бараболі", - таксама ўтрымлівае знакамітыя радкі "А я ўсё дзiўлюся, дзе мая Маруся...", але паводле зместу зусім не сягае да фальклорнай аўтэнтыкі. Дый у інструментарыі "Грамада" выкарыстоўвае зусім не дуду або гуслі, а электрагітару, акардэон, сінтэзатары. Многія трэкі пішуцца метадам накладання шматканальнага запісу.

Так створаны кампазіцыі "Дарма, Ясю, ходзіш", "На небе месяц", "Цыганачка-маргуначка". Гарманічна ўпісаліся ў стылістыку discoplo і "Беларусачка", "Туман ярам", "Харашуха", вядомыя ў інтэрпрэтацыі самых розных артыстаў (Данчыка, "Песняроў", "Ліцвіноў", "Крыві"), але і тым больш вабныя ў плыні total-pops.

Шыкоўную вокладку гэтаму альбома "Грамады" распрацаваў Кшыштаф Вальчак, а прадзюсерам "Бараболяў" быў Дэзары Кулеша. Бадай, і нашым выдаўцам моджна было б сур'ёзна паставіцца да такой папсы, бо нацыянальнай яе ў нас і не было.

*Вітаўт Мартыненка.*

### "P.L.A.N." – блюзавая энергія пяшчоты

У той час як славуты Крыс дэ Бург даваў вялікі сольны канцэрт у сталічным Палацы Рэспублікі, з другога боку Цэнтральнай плошчы Менска, ля Палаца культуры Белсаўпрофа,сабралася немалая колькасць прыхільнікаў беларускага рытм-энд-блюза, дзе ў рэспектабельным клубе "Alcatraz" прэзентаваў свой найноўшы альбом "Blues у канцы тунэля" менскі гурт "P.L.A.N.".

Калектыў пакуль не заўважаны ў актыўнай канцэртнай дзейнасці, але складаюць яго проста легендарныя асобы: лідар – гітарыст Георгі Станкевіч – прафесіянал экстра-класа, якога называюць сваім настаўнікам музыкі лепшыя айчынныя гурты (Mojo", "Neo"); выпускнік Белдзяржкансерваторыі басіст Анатоль Стацэнка мае за плячыма аж 20 гадоў працы ў знакамітым фальклорным гурце "Харошкі", а бубнар Андрэй Сапоненка і сёння грае ў шырока вядомых калектывах "Крыві", "Harackija", "Flat". Што ж датычыць лідара калектыву, імя якога Плясанаў Андрэй (яно ж і дало назву гурту), дык гэта ўвогуле гістарычная асоба: пляменнік Паўліны Мядзёлкі, апантаны калекцыянер авангарднага мастацтва, сам небанальны мастак, працы якога ўпрыгожваюць салідныя еўрапейскія каталогі.

На прэс-канферэнцыі, якая адбылася перад канцэртам, Андрэй Плясанаў расказваў, як захапіўся блюзам яшчэ ў 60-я гады, працаваў з такімі славутымі калектывамі, як "Лявоны" (першы гурт Уладзіміра Мулявіна), "Дойліды", "Шпакі", з Ю. Антонавым. Ён пасля завяршэння адукацыі ў тэатральна-мастацкім інстытуце працаваў другім рэжысёрам на "Беларусьфільме" ў такіх фільмах, як "Мяне завуць Арлекіна", "Сведка", "Чалавек, які браў інтэрв'ю". На рубяжы стагоддзяў зноў вярнуўся да блюзу, а найбольш прыкметны выступ, захаваны ў масавым тыражы на відэакасетах фірмы "Каўчэг", адбыўся на "Рок-Каранацыі-2001" акурат з гуртом "P.L.A.N."

Дарэчы, менавіта там музыкі гурта "P.L.A.N." заўважылі, што лепшыя беларускія калектывы, адзначаныя аўтарытэтным журналісцкім журы, спяваюць на роднай мове: "N.R.M.", "Крама" "Троіца", А. Памідораў, маладыя "Імпэт", "Без білета..." Вырашылі і самі паспрабаваць сябе ў гэтым рэчышчы.

Пераклад старой песні Андрэя Плясанава з часоў хіпі "Шукальнікі сэнсу" (1986) загучаў настолькі па-новаму свежа, што песню з ходу ўзялі ў ратацыю радыёстанцыі ("Мір", "Polona", "Рускае радыё"). А яшчэ вялікі штуршок у творчасці дало знаёмства з паэтам-авангардыстам Андрэем Бурсавым.У новым альбоме аж шэсць песень на яго вершы: "Вецер", "Аўтобус", "Дошка аб'яў", "Лялька", "Пакет", "На лаўцы".

Прычым на канцэрце-прэзентацыі менавіта апошняя, нягледзячы на знешні бытавізм тэмы, была залічана знаўцамі ў лік экстра-мета-хітоў. А я асабіста дык адразу прыкіпеў да чароўнай мелодыі "Цені гісторыі", якую Андрэй Плясанаў напісаў да маіх уласных вершаў. Я нават не чакаў, што такая энергія пяшчоты таілася ў напісаных калісьці словах.

Мяркую, нашае супрацоўніцтва з гуртом "P.L.A.N." працягнецца і надалей, а пакуль навінку (Blues з канца тунэлю") можна знайсці ў сетцы ТБМ і музычных крамах "Праспект".

*Вітаўт Мартыненка.*

# Багач

Дахрысціянскае свята "Багач" на Беларусі святкуюць, як каталікі, так і праваслаўныя. Святкуюць 8 верасня кожныя па сваіму царкоўнаму календару і адпаведна 8 і 21 верасня па календару свецкаму. Свята супадае з хрысціянскім святам "Дня народзінаў Багародзіцы".

Да Багача добрыя гаспадары заканчвалі ворыва зябліва і на Багач пачыналі сяўбу азімых.

***Прыйшоў Багач, кідай рагач,***
***Бяры сявеньку***
***ды сей памаленьку.***

Свята звязана з земляробчымі работамі і бытуе ў беларускай вёсцы да гэтага часу.

Сімвал Багача - сявенька з жытам ці пшаніцай і ўстаўленай васковай свечкай (жыта вымалочвалі з першага зажыннага снапа і зносілі па жменьцы з кожнага сялянскага двара). Гэтая сявенька сама па сабе і ёсць "Багач".

З "Багачом" абходзілі ўсе двары ў вёсцы, а на заканчэнне зганялі на выган статак і абносілі вакол яго "Багач".

Пасля гэтага "Багач" ставілі ў хаце аднаго з гаспадароў, за што той ладзіў пачастунак. "Багач" павінен быў забяспечыць дому багацце і шчасце.

*Праз нумар нашая газета спадзяецца падаць рэпартаж з свята "Багача" ў адной з вёсак Беларусі.*

# Узвіжанне

***Ой, прыйшлі ночанькі доўгія.***
***Пасвяці нам Комінку беленькі.***
***Мы ж цябе будзем жаніці.***
***Медавуху з квасам піці***
***Свяці, Каміночак, ясненька,***
***Свет, ахвоту і радасць пашллі нам***
***Мы ж цябе кветкамі ўбіралі.***
***Бервяночкай, рутай аперазалі.***

У пісаннях даследчыкаў XIX стагоддзя гэта выглядае так: амаль у кожнай хаце на Пiншчыне "жэняць Коміна".

У народным жыцці беларусаў Узвіжанне – гэта свята якое адзначаецца 14 верасня ў каталікаў і 27 верасня – у праваслаўных хрысціян. Больш за ўсё яно асацыюецца з тым, што зямля ўжо напярэдадні зімы халадзее, а ў лесе ў гэты дзень вужы і гадзюкі збіраюцца ў клубок. Вось што на гэты конт запісана ў Слуцкім раёне: "На Узвіжанне гадзюкі здбіраюцца ў аднс месца, каб паўзці на зіму ў вырай. Гадзюкі, як птахі, маюць свой вырай. Яны ў яго паўзуць пад камандай Свайго цара, які паўзе наперадзе. Як толькі ўзыйдзе сонейка, дык усякія гадзюкі пачнуць спаўзацца. Калі пакажацца сам цар, яны пачынаюць яго абвіваць, як пчолы сваю матку.

Цар скідае сваю карону (скуру), а той, хто яе знойдзе і будзе зберагаць у сябе, атрымае чароўную сілу адкрываць любыя запоры..."

Вось што расказваюць у Капыльскім раёне: "На Узвіжанне сонца, калі ўзыходзіць, гуляе, скача, рухаецца," сонца пераліваецца розным колерам. Па народных павер'ях на Узвіжанне нельга пачынаць якіх-небудзь спраў, таму што пачатае ў гэты дзень будзе безвыніковым.

На Беларусі вядомы самабытны абрад "Жаніцьба Коміна", пад час якога прыгожа прыбіралі комін, гатавалі смачную ежу, стол ставілі бліжэй да печы, перш чым сесці за стол, гаспадар казаў: "Барані худобу, барані пшанічку, жыта. Захавай хлеб да краснай вясны. Дай, Божа ўсяму расці, цвісці, жыці і людзей карміці.."

Гэты абрад мог узнікнуць як традыцыя пакланення агню-збавіцелю і ахоўніку ад халадоў, таму ўшаноўваючы агонь, вадзілі карагаоды, спявалі песні, псіхалагічна рыхтавалі сябе да зімовых халадоў. У Жыткавіцкім раёне на Тураўшчыне у вёсцы Пагост, заўсёды "жэняць Коміна" амаль усёй вёскай разам з фальклорным гуртом мясцовага клуба.

*"Узвіжанне" лета замыкае,*
*ключы закідае".*
*"На Узвіжанне – халат з плеч,*
*а кажух – на плечы".*

***Мікола Котаў***
***навуковы супрацоўнік***
***НДЛ беларускага фальклору БДУ.***

# У добрым мейсцы і кітайцы беларускамоўныя




*У Нясвіжы беларускае слова "крама" добра спалучаецца з кітайскай назвай "Шанхай".*

*Здымак С. Судніка.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 1. 09. 2003 г.
Наклад 1750 асобнікаў. Замова № 2107.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1030 руб., 3 мес.- 3090руб.
*Кошт у розніцу:* 175 руб. (у Менску - 185 руб.)